# comicsby.by прадстауляе:

























# СУЧАСНЫ ЧАЛАВЕК-ПАВУК 6




ЯНА МЯНЕ КІНУЛА.
ADVANCED PHYSICS


НАВАТ НЕ ВЕРЫЦЦА, ШТО І ТУТ Я УСЁ **САПСАВАЎ**.
Я НАОГУЛ САПСАВАЎ У СВАІМ ЖЫЦЦІ ЎСЁ, ШТО ТОЛЬКІ БЫЛО МАГЧЫМА.
Я ЗАКІНУЎ ВУЧОБУ. У МЯНЕ ПРАБЛЕМЫ ДОМА.
Я СТРАЦІЎ ГАРЫ. Я СТРАЦІЎ ДЗЯДЗЮ БЭНА.
УСЕ НЕНАВІДЗЯЦЬ МЯНЕ, ТАМУ ШТО НЕЙКІ ІДЫЁТ АБРАБАВАЎ БАНКІ Ў **МАІМ КАСЦЮМЕ**.


А ЦЯПЕР АДЗІНЫ ЧАЛАВЕК НА СВЕЦЕ, ЯКІ ВЕДАЎ МЯНЕ... ЯКІ ВЕДАЎ, ХТО Я НА **САМОЙ СПРАВЕ**... НЕ ХОЧА БОЛЬШ ЗНАЦЦА СА МНОЙ.
І САМАЕ ЖУДАСНАЕ... УСЁ, ШТО СКАЗАЛА ПРА МЯНЕ МЭРЫ ДЖЭЙН, – **ПРАЎДА**!
Я ПАВІНЕН БЫЎ КРЫКНУЦЬ ЁЙ: «ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ! МЭРЫ ДЖЭЙН! ВЯРНІСЯ, І МЫ ЎСЁ **ВЫПРАВІМ**!»
АЛЕ ЗАМЕСТ ГЭТАГА Я ДАЗВОЛІЎ ЁЙ УЙСЦІ.


Я ПАТЭЛЕФАНУЮ ЁЙ.
Я ПАВІНЕН ПАЧУЦЬ ЯЕ ГОЛАС!


МАБЫЦЬ, ПАЧУЎШЫ МЯНЕ, ЯНА ЎСПОМНІЦЬ, ЯК ЯНА МЯНЕ КАХАЕ, І ПРАБАЧЫЦЬ.
УСЁ, ШТО МНЕ ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, ГЭТА...
...НЕ, Я ПРОСТА...
...Я ПРОСТА ПАТЭЛЕФАНУЮ І ПРАВЕРУ, ЦІ ЎСЁ З ЁЙ У ПАРАДКУ! Я НЕ БУДУ ДОЎГА РАЗМАЎЛЯЦЬ...


...НЕ! У ЯЕ РАСПАЗНАВАЛЬНІК НУМАРОЎ. І ЯНА НЕ ВОЗЬМЕ ТРУБКУ.


ААА!
ПРАКЛЯЦЦЕ!


SMASSKK


ОЙ... НЕ, НЕ...
ІДЫЁТ, Я ЗЛАМАЎ СВОЙ ТЭЛЕФОН.
ЦЯПЕР Я – САМЫ ВЯЛІКІ НЯЎДАЧНІК БЕЗ ТЭЛЕФОНА.


А РАПТАМ... РАПТАМ ЯНА ПАТЭЛЕФАНУЕ МНЕ?
ЦЯПЕР Я... АРРРР!
ЯНА НЕ БУДЗЕ МНЕ ТЭЛЕФАНАВАЦЬ... ЯНА МЯНЕ НЕНАВІДЗІЦЬ.
ДУРАК!








ОЙ, ЦЁЦЯ МЭЙ! ГЭТА ТАК СМЕШНА!
І ВЕДАЕШ... РАНЕЙ, ЧЫМ Я ГЭТА ЗРАЗУМЕЛА... Я ВЫСКАЧЫЛА НА СЦЭНУ І ЗАКРЫЧАЛА НА ЎСЁ ГОРЛА:
«ДЖЫМІ ХЭНДРЫКС, ТЫ ПАЖЭНІШСЯ НА МНЕ?»
А ДЖЫМІ ПАКАЗАЎ НА МЯНЕ СВАЁЙ ГІТАРАЙ І...


...ПРЫВІТАННЕ, ПІТАР. МЫ ГАТУЕМ ПЕЧЫВА. ТЫ ХОЧАШ...
ДЗЯКУЙ, СА МНОЙ УСЁ ДОБРА.
ПІТАР?


БОЖА. ЁН ТАК ПЕРАЖЫВАЕ.
ЯНЫ ПАМІРАЦЦА, ГВЕН. ЁН З МЭРЫ ДЖЭЙН – ДОБРАЯ ПАРА...
У ШКОЛЕ КАЖУЦЬ, ШТО МІЖ ІМІ ЎСЁ КОНЧАНА.
Я ПАВІННА ПАГАВАРЫЦЬ З ІМ.
АБ ЧЫМ?




PLAY
STOP




ПІТАР, ПАГЛЯДЗІ СЮДЫ!!!
ТАТА, Я ЗРАБІЎ У ШКОЛЕ СПРАВАЗДАЧУ ПРА ІМПЕРАТАРСКІХ ПІНГВІНАЎ.
СУР'ЁЗНА?
ТАК, ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО ЎСЯГО ЁСЦЬ ПЯТНАЦЦАЦЬ ВІДАЎ ПІНГВІНАЎ?


НЯЎЖО?
ІМПЕРАТАРСКІ, КАРАЛЕЎСКІ, ХАХЛАТЫ... ААА!


ПІТАР!
ОЙ! ОЙ-ОЙ!
ПІТАР? ТЫ Ў ПАРАДКУ?


ТАК...
ПІЦІ, З ТАБОЙ УСЁ ДОБРА?
УСЁ НАРМАЛЬНА, МАМА.


МАМ...


ЯК ТЫ, МАЛЫ? ТАБЕ НЕ ВЕЛЬМІ...
УСЁ ДОБРА.
ПРАБАЧЦЕ, МІСІС ПАРКЕР.
УСЁ Ў ПАРАДКУ. ЭДДЗІ, ТЫ ЖА НЕ СПЕЦЫЯЛЬНА.
ПІТ, ПАЙШЛІ ПАГУЛЯЕМ, ПАКІДАЕМ ТАЛЕРАЧКУ.


ІДЗІ, ПАГУЛЯЙ, ПІТАР.


ВОСЬ, КУКУРУЗА, МАСЛА, ПІВА І НЕШТА ЯШЧЭ.
АЛЕ НЕ ТАКІ, ЯК УСЕ... МАЛЫ.
ТЫ ТАКІ СМЕШНЫ, ДЗЯДЗЯ БЭН.
БЕН...


РЭЙ, ТЫ ЧЫТАЎ АРТЫКУЛ РЫДА РЫЧАРДСА Ў ЧАСОПІСЕ «ТАЙМС»?
ТАК. ДОБРЫ АРТЫКУЛ.
ХТО ГАТАВАЎ ГЭТЫ БУЛЬБЯНЫ САЛАТ?
ЭДДЗІ-СТАРЭЙШЫ.
НЯЎЖО?
УЯВІ САБЕ.
ХТО ВОЗЬМЕ АПОШНЮЮ АЛАДКУ?
А ШТО ЗНАЧЫЦЬ... «БЫЦЬ НЕ ТАКІМ, ЯК УСЕ»?


ЛІЧЫШ, НАМ ТАКСАМА ПАТРЭБНЫ ПУБЛІКАЦЫІ? ХОЧАШ ПРЫЦЯГНУЦЬ ДА ПРАЕКТА ПРЭСУ?
ТАК. МЕНАВІТА ДЛЯ ГЭТАГА Я І ВЫРАШЫЎ ЗАЙМАЦЦА ГЕНЕТЫЧНЫМІ ДАСЛЕДВАННЯМІ. ДЗЕЛЯ СЛАВЫ.
Я СУР'ЁЗНА.
НУ КАНЕШНЕ.
ТЫ ЕСЦІ ХОЦЬ БУДЗЕШ? ЦІ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ЗДЫМАЦЬ НАС УСЕСЬ ДЗЕНЬ?

ГЭТА ЯГО **НОВАЯ ЦАЦКА**. ЭД, НЯХАЙ ПАГУЛЯЕ.
ПРАЗ ДВА МЕСЯЦА ЁН СХАВАЕ ЯЕ Ў СКРЫНЮ І ЗАБУДЗЕ ПРА ЯЕ ІСНАВАННЕ.
МАМ, Я ЗРАБІЎ СПРАВАЗДАЧУ ПРА ПІНГВІНАЎ І...

МЭРЫ, А ЯК ТЫ ЛІЧЫШ?

ПРА ТОЕ, КАБ ЗАПРАСІЦЬ ЖУРНАЛІСТА? НА МАЮ ДУМКУ, ГЭТА НЕСУР'ЗНА

ОХ...
РАБЯТЫ, ВЫ СУР'ЁЗНЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ПРАЦУЮЦЬ НАД СУР'ЁЗНЫМ ПРАЕКТАМ.
ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ЗРАБІЦЬ РЭВАЛЮЦЫЮ Ў СУЧАСНАЙ МЕДЫЦЫНЕ.
І, МАГЧЫМА, ШТО ПРЫ ЛЕПШЫМ РАСКЛАДЗЕ ВЫ ДАБ'ЯЦЕСЯ СВАЯГО. АЛЕ...

...ЦІ САПРАЎДЫ ГЭТА ПРЫНЯСЕ КАМУНЕБУДЗЬ КАРЫСЦЬ?
ТАМУ ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ПАПЯРЭДЖВАЦЬ КАНКУРЭНТАЎ...
...ЦІ... АПУСКАЦЦА ДА ГУТАРАК З ВЯДУЧЫМІ ШОЎ, У ЯКІХ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ВАР'ЯЦКІЯ ВЫНАХОДНІЦТВЫ, ЯКІЯ НЕ МАЮЦЬ НІЯКАГА СЭНС...

ГЭТА ЗРОБІЦЬ ЛЯГЧЭЙ НАШУ ПРАЦУ НАД...
ЭД, ДАЙ ЁЙ ЗАКОНЧЫЦЬ.

ДОБРА, Я ЎЖО ЗАКОНЧЫЛА.



Я ПРОСТА КАЖУ ПРА ТОЕ, ШТО МЫ ПАВІННЫ АТРЫМАЦЬ ВЯДОМАСЦЬ, ГЭТА ДАСЦЬ **СВАБОДУ**.
ШТО ТЫ ТАМ КАЗАЎ ПРА ПІНГВІНАЎ, МАЛЫ?
ІСНУЕ ПЯТНАЦ-ЦАЦЬ ВІДАЎ ПІНГВІНАЎ...




ДАВАЙ ДАМОВІМСЯ, ЭД. МЫ ЗАКОНЧЫМ ДРУГІ ЭТАП, І КАЛІ ЁН ПРЫНЯСЕ РЭЗУЛЬ-ТАТЫ... ТАДЫ МЫ ПАДУМА-ЕМ НАКОНТ ПУБЛІЧНЫХ ЗАЯЎ ДЛЯ ПРЭСЫ.
ЗГОД-НЫ?




МАМ, МНЕ СУМНА. МОЖНА Я ПАЙДУ НА САЖАЛКУ?
ВАЗЬМІ З СА-БОЙ ПІТАРА.
ПІТАР, ПОЙДЗЕШ СА МНОЙ, AMIGO?
А ШТО МЫ БУДЗЕМ РАБІЦЬ НА САЖАЛКЕ?
ЯК ШТО... ТАМ ЛЯГУШКІ...




А ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЁСЦЬ ТРЫ-НАЦЦАЦЬ ВІДАЎ ЛЯГУШАК...







ДЗЕ ТЫ ГЭТА ЎЗЯЎ?
Я... Я ЗНАЙШОЎ КАСЕТЫ Ў СКРЫНІ, У СКЛЕПЕ. ТАМ БЫЛО ЯШЧЭ НЕШТА...
ГЭТА ТВАЁ.
ШТО?
УСЁ, ШТО ТАМ БЫЛО... ГЭТА НАЛЕЖЫЦЬ ТАБЕ...
...У ТЫХ СКРЫНЯХ... ТАМ РЭЧЫ ТВАЙГО БАЦЬКІ І МАЦІ.

ЯНЫ ТВАЕ.
МЫ З БЕНАМ ЗАХАВАЛІ ІХ ДЛЯ ЦЯБЕ, ПАКУЛЬ ТЫ НЕ ВЫРАСЦЕШ.
ЦЯПЕР ТЫ ДАСТАТКОВА ДАРОСЛЫ.

ТЫ Ў ПАРАДКУ?

Я ПРОСТА НЕ ЧАКАЛА СЁННЯ ЎБАЧЫЦЬ БЕНА... ВОСЬ ТАК.
МЯНЕ ГЭТА ПАТРЭСЛА.
Я... Я...


Я ЗАРАЗ СУПАКОЮСЯ.
БРОКІ. ПАМЯТАЕШ... ЭД БРОК БЫЎ ПАРТНЁРАМ ТВАЙГО БАЦЬКІ.
А ХТО... БЫЛІ ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ НА ПЛЁНЦЫ?

ТАК. КАНЕШНЕ, ПАМЯТАЮ.
АЛЕ Я НЕ ПАМЯТАЮ, КАБ МЫ З ІМІ СУСТРАКАЛІСЯ.

ДЫ І НЕ РАЗ.
ВЫ З МАЛЕНЬКІМ ЭДДЗІ СЯБРАВАЛІ НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ.
ЁН БЫЎ ТВАІМ ЛЕПШЫМ СЯБРАМ.

БОЖА, Я ЎСЁ ЗАБЫЎ.
Я ПАМЯТАЮ, ШТО ГУЛЯЎ З КІМСЬЦІ, ПРОСТА... Я...
ЭДДЗІ БРОК.
НУ, ТЫ БЫЎ ТАДЫ ЗУСІМ МАЛЕНЬКІМ.

КУДЫ ЁН ЗНІК?
КАЛІ ЯГО БАЦЬКІ ПАМЕРЛІ... ЁН ПЕРАЕХАЎ... НАПЭЎНА, ДА БАБУЛІ З ДЗЯДУЛЯЙ.
ЯГО БАЦЬКІ ТАКСАМА ПАМЕРЛІ?
У ТОЙ ЖА КАТАСТРОФЕ, ШТО І ТВАЕ.
ЯНЫ ПАТРАПІЛІ Ў НЕПАГАДЗЬ.


ТЫ НЕ ХОЧАШ АДШУКАЦЬ ЯГО?
Я МОГ БЫ ДАСЛАЦЬ ЯМУ КОПІЮ.
ДОБРАЯ ІДЭЯ.




**INTERNET WHITE PAGES**

**Знойдзены 1 запіс**

## Эддзі Брок

**97214 Універсітэт Эмпаер Стэйн, будынак Тоні Старка, 44**

**1-212-578-0808**










НУ ТРЭБА Ж.
ДАВАЙ СУСТРЭНІМСЯ.
ТЫ ВЫЯЗДЖА-ЕШ У ГОРАД?
IRS '91
IRS '92
HARMONICS
WAVE PRINCIPLES
GRAVITY'S RAINBOW
PARKER


ТАК, Я ПРАЦУЮ Ў «ДЭЙЛІ Б'ЮГЛ» І АМАЛЬ КОЖНЫ...
ТЫ ПРАЦУЕШ У ГАЗЕЦЕ? КРУТА!! ВЕЛЬМІ КРУТА, СЯБРУК.
HARMONICS
WAVE PRINCIPLES


МЫ АБА-ВЯЗКОВА ПАВІННЫ СУСТРЭЦЦА.
І ЗРАБІЦЬ ЯКУЮ-НЕБУЦЬ ЗАВАРУШКУ.
WAVE PRINCIPLES
VENOM PROJECT
PARKER


E.S.U.
EMPIRE STATE UNIVERSITY
НІЯК НЕ МАГУ ДАЧАКАЦЦА, КАЛІ ПАСТУПЛЮ ВА ЎНІВЕРСІТЭТ.
ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІЦЕ... СТУДЭНТЫ ПРЫМА-ЮЦЬ ВАЖНЫЯ РАШЭННІ, ЗДЗЯЙСНЯЮЦЬ ВЫНАХОДНІЦТВЫ... УХ, ТЫ... ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ЯЕ!
ПРЫГАЖУНЯ!


О, БОЖА... ЯК ЖЫВУЦЬ ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ?
ЯК ЯНЫ МОГУЦЬ ТУТ ВУЧЫЦЦА. ФУ... ШТО ГЭТА ЗА ПАХ?
ТУТ ПАХНЕ, ЯК... ОЙ, ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ЯЕ!


ГЭЙ! А ВОСЬ І ЁН!
СЛУХАЙ, А ТЫ СТАЎ ВЫШЭЙ!


САРДЭЧНА ЗАПРАШАЮ Ў ВЫШЭЙШУЮ АДУКАЦЫЮ!


НУ, НІЧОГА АСАБЛІВАГА... АЛЕ, ЯК КАЖУЦЬ, СОЙДЗЕ.




ЁН НЕ ВЕЛЬМІ МАЛЕНЬКІ ДЛЯ ЦЯБЕ, БРОК?
ANIMAL EN


ТЫ ПРОСТА... ДОБРА.
ХТО ГЭТА?
САМЫ ВЯЛІКІ ДУРАНЬ У ГЭТЫМ ПАКОЙЧЫКУ.
НА СЯБЕ ПАГЛЯДЗІ.
ПАЙШЛІ, ПАП'ЕМ КАВУ.


...АСТРАФІЗІКА. А ЗАРАЗ Я ВЫВУЧАЮ КУРС ПА БІЯІНЖЫНЕРЫІ.
ТАК, ВЫДАТНА. Я ТАКСАМА ХАЧУ ГЭТЫМ ЗАЙМАЦЦА.
ДЫК, ЗНАЧЫЦЬ, МЫ З ТАБОЙ З АДНАГО ГНЯЗДА ПТУШКІ.
У СЭНСЕ?


МЫ ПРОСТА ГОНІМСЯ ЗА **ЗДАНЯМІ**.
ХОЧАМ БЫЦЬ НЕ ГОРШ ЗА СВАІХ БАЦЬКОЎ.


НУ, Я...
Я ЧЫТАЎ НЕКАТОРЫЯ РАБОТЫ МАЙГО БАЦЬКІ І Я... ВЕРУ Ў ЯГО ІДЭІ.


НЕ, Я ТАКСАМА ВЕРУ.
СПАЧАТКУ Я СПРАБАВАЎ... НУ НАВАТ НЕ ВЕДАЮ... ПРАЦЯГНУЦЬ СПРАВУ СВАЙГО БАЦЬКІ.
АЛЕ ПОТЫМ Я НАСАМРЭЧ ПАВЕРЫЎ У ТОЕ, НАД ЧЫМ ЯНЫ ПРАЦАВАЛІ. Я ЗАРАЗ ТАБЕ ПАТЛУМАЧУ...
БО... НАВУКА ЗАНАДТА ЦЯЖКАЯ РЭЧ, КАБ ЗАЙМАЦЦА ЁЙ БЕЗ СУР'ЁЗНАЙ МЭТЫ.


ТАК, Я ВЕДАЮ.
НЕ, НЕ ВЕДАЕШ...
ЦЯБЕ НІХТО НЕ ПАДРЫХТУЕ ДА ТАКІХ **ВЫПРАБАВАННЯЎ**.
МЫ ВЫМУШАНЫ ЗА НАЧ ЧЫТАЦЬ ПА ТРЫ ГЛАВЫ, ПА **ТЫСЯЧЫ** СТАРОНАК У ДЗЕНЬ.
ПЛЮС. ТАБЕ ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ ЯК МІНІМУМ НА АДНОЙ РАБОЦЕ.
БО... КНІГІ КАШТУЮЦЬ **ДОРАГА**.


І Ў ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ Ў ЦЯБЕ НЕ БУДЗЕ МАГЧЫМАСЦІ ЗАПРАСІЦЬ ДЗЯЎЧЫНУ НА СПАТКАННЕ, КАЛІ ТЫ НЕ АТРЫМЛІВАЕШ НАРМАЛЬНЫ ЗАРОБАК.
...ТЫ Ж НЕ ХОЧАШ ЗАСТАЦЦА БЕЗ **ЗАДАВАЛЬНЕННЯЎ**?
ДАРЭЧЫ, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ **ДЗЯЎЧЫНА**?


БЫЛА.

БЫЛА?


НУ, І ШТО Ў ВАС ЗДАРЫЛАСЯ?

ПРОСТА ЯНА... ЯНА... МЫ РАЗЫШЛІСЯ І... У МЯНЕ ГЭТА ДА ГЭТУЛЬ НЕ ЗМЯШЧАЕЦЦА Ў ГАЛАВЕ.
РАЗУМЕЕШ... Я ВЕЛЬМІ... ЯНА – МОЙ ЛЕПШЫ СЯБАР. І Я НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ЯНА...



ТАК, ШКОЛА.
Я СКАЖУ ТАБЕ ШТОСЬЦІ, АБ ЧЫМ МНЕ, НАЖАЛЬ, У СВОЙ ЧАС НІХТО НЕ СКАЗАЎ.
УСЁ... УСЁ, ШТО ТЫ АДЧУВАЕШ... ГЭТА ДЗЯЎЧЫНА... ТАЯ ДЗЯЎЧЫНА...
ПРАЗ **ПЯЦЬ** ГАДОЎ...
...НЕ ПРАЗ ПЯТНАЦЦАЦЬ І НЕ ПРАЗ СТО...
...ПРАЗ ПЯЦЬ ГАДОЎ ТЫ НАВАТ НЕ **ЎСПОМНІШ** ЯЕ **ІМЯ**.
ШЧЫРА КАЖУ.


ЗАРАЗ ДЛЯ ЦЯБЕ ГЭТА ВЕЛЬМІ ВАЖНА... САПРАЎДНАЯ **ДРАМА**.
АЛЕ ПАСЛУХАЙ... ТАБЕ ТАК БОЛЬНА ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ТАБЕ ПРОСТА НЯМА З ЧЫМ **ПАРАЎНАЦЬ**.
АЛЕ ГЭТА ЎСЁ ЧАСОВА, ПРЫЯЦЕЛЬ. УСЕ **ПРОЙДЗЕ**.


КАЛІ Ў ЦЯБЕ ПАЧНЕЦЦА **САПРАЎДНАЕ ЖЫЦЦЁ**... ТЫ ЗРАЗУМЕЕШ ГЭТА.
ПАВЕР МНЕ.
Я РАЗУМЕЮ, ТЫ ЛІЧЫШ, ШТО Я **САПСАВАНЫ**. АЛЕ ГЭТА **ПРАЎДА**.


НАПЭЎНА.
ПРОСТА...


КАЛІ Б Я МОГ ВЯРНУЦЦА Ў ШКОЛУ...
Я Б ПАВОДЗІЎ СЯБЕ ІНАЧ.


Я Б...
ПРОСТА ВУГЛЫ Б АБЦІРАЎ І НЕ СТАМЛЯЎСЯ Б ТАК.


ТОЛЬКІ ПАДУМАЙ!
ГЭТА **НЕВЕРАГОДНА**!
МНЕ ЗДАВАЛАСЯ, ШТО ТЫ ЗАЎСТАЎСЯ ДЗЕСЬЦІ ТАМ, Ў МІНУЛЫМ.
І ВОСЬ ТЫ **НАСУПРАЦЬ МЯНЕ**.




КАЛІ Я ДУМАЮ ПРА МІНУЛАЕ...
ЧАСАМ... Я НЕ МАГУ ЎСПОМНІЦЬ ТРАР МАЁЙ МАЦІ, РАЗУМЕЕШ?
МНЕ ПАТРАБУЕЦЦА НА ГЭТА НЕЙКІ ЧАС.
ТАК.


Я ГЛЯДЖУ НА ФАТАГРАФІІ І ДУМАЮ: «ГЭТА ЯНЫ».
АЛЕ, ЧАСАМ, Я ПАЧЫНАЮ ПЕРАЖЫВАЦЦЬ З-ЗА ТАГО, ШТО ДРЭННА ПАМЯТАЮ ІХ...
...ГЭТА... ГЭТА ЦЯЖКА ПАТЛУМАЧЫЦЬ... АЛЕ МНЕ СТАНОВІЦЦА **ДРЭННА**.


ШТО ГЭТА?


**ВІДЭА** З ТВАІМІ БАЦЬКАМІ.
МЫ БЫЛІ НА **ПІКНІКУ**, ТАМУ Я І ПАТЭЛЕФАНАВАЎ ТАБЕ.
Я ХАЦЕЎ АДДАЦЬ ГЭТУЮ КОПІЮ.


УАЎ.




ГЭТА АДЗІН З САМЫХ ПРЫЕМНЫХ МОМАНТАЎ У МАІМ ЖЫЦЦІ.


НУ...


ВЕДАЕШ ШТО?


Я ТАКСАМА ХАЧУ ТАБЕ ШТОСЬЦІ ПАКАЗАЦЬ.


REED RICHARDS SCIENCE CENTER
REED RICHARDS SCIENCE CENTER


S.9.




ТАК.
ГЭТА... ГЭТА НЕ ШКОЛЬНАЯ ЛАБАРАТО-РЫЯ.


АЛЕ Я НЕ ЯЕ ТАБЕ ХАЦЕЎ ПАКАЗАЦЬ.
А ВОСЬ ШТО.
BROCK


ГЭТА...
...ГЭТА НЕШТА...










НАША **СПАДЧЫНА.**

To be continued...

ПРАЦЯГ БУДЗЕ...